# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 36 (2230)

5 верасня 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.

# ЗАКОН

## БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

### АБ НАДАННІ СТАТУСУ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА ЗАКОНА ДЭКЛАРАЦЫІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ АБ ДЗЯРЖАЎНЫМ СУВЕРЭНІТЭЦЕ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі пастанаўляе:

1. Надаць статус канстытуцыйнага закона Беларускай ССР Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

2. У выпадках, калі артыкулы дзеючай Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Беларускай ССР уваходзяць у пярэчанне з палажэннямі Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, кіравацца Дэкларацыяй як канстытуцыйным законам Беларускай ССР.

3. Даручыць Камісіі Вярхоўнага Сав... Беларускай ССР па заканадаўству падрыхтаваць да наступнай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР папраўкі да дзеючай Канстытуцыі Беларускай ССР.

4. Даручыць Канстытуцыйнай камісіі прывесці тэкст праекта рыхтуемай Канстытуцыі рэспублікі ў адпаведнасць з палажэннямі Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Першы намеснік
Старшыні Вярхоўнага Савета
Беларускай ССР
С. ШУШКЕВІЧ.

25 жніўня 1991 г. гор. Мінск.




Ча...ека пад нумарам 364, якога вы бачыце на здымку, ...чуць Пётр Чайкоўскі. Яму 65-ты год. Гэта наш беларус з ваколіц Маладзечна, а жыве стала з паваенных часоў у Англіі. Ужо гадоў чатырнаццаць, пасля таго як Пётр Чайкоўскі перанёс сур'ёзную хваробу сэрца, ён пачаў бегаць на марафонскія дыстанцыі. За гэтыя чатырнаццаць год ён прабег дваццаць шэсць "поўных марафонаў", а колькі бегаў на карацейшыя — палавіна дыстанцыі, — дык ужо і не палічыш. І кожны забег наш суайчыннік прысвячаў якойсьці дабрачыннай мэце.

— У Англіі існуе такі звычай, — гаворыць сябар Пятра Чайкоўскага Алесь Гатковіч, — людзі падпісваюць ахвяраванні на марафонцаў: прабяжыш столькі кіламетраў, атрымаеш, скажам, 5 ці 10 фунтаў. Ахвяруюць тым болей ахвотна, калі ведаюць, куды пойдуць сабраныя грошы. Да апошняга часу Пётр Чайкоўскі аддаваў фунты стэрлінгаў праз нашу гарадскую газету для сірот, якія не маюць магчымасці лячыцца. Цяпер жа ўсё ён ахвяруе для Беларусі, у фонд Чарнобыля.

Паглядзіце на гэтага чалавека, людзі, і запомніце яго адкрытую, шчырую ўсмешку. Каб мы ўсе мелі такое добрае, спагадлівае сэрца...

*Гутарку з Пятром ЧАЙКОЎСКІМ і Алесем ГАТКОВІЧАМ "Пра хлеб, волю і страх" чытайце на стар. 5.*

ГЛАБАЛЬНЫЯ ПРАБЛЕМЫ СУЧАСНАСЦІ

# САВЕЦКАЕ ГРАМАДСТВА: КРЫЗІС ІДЭЙ

**Праблемы савецкага грамадства хвалююць сёння не толькі вучоных і палітыкаў, але і масы людзей як у нашай краіне, так і за яе межамі. Бо крызіс, здавалася б, унутрысаюзны можа мець і глабальныя вынікі. Гэтай тэме прысвечана гутарка журналіста Аляксандра СУХАПАРАВА з філосафам і псіхолагам Акопам НАЗАРАЦЯНАМ, які займаецца праблемамі інтэлекту ў чалавечай цывілізацыі.**

I

*— Акоп Пагосавіч, у апошнія гады вучоныя, палітыкі, эканамісты шмат спрачаюцца аб прычынах таго тупіка, у якім апынулася савецкае грамадства. Адны даказваюць, што Сталін з кампаніяй адвялі краіну ад сацыялістычнага шляху і загубілі рэвалюцыю. Другія — што Ленін не змог убачыць у Маркса нічога, акрамя ідэі насілля. Трэція — што Расія з-за сваёй эканамічнай, палітычнай, культурнай адсталасці не была гатова да сацыялістычных пераўтварэнняў...*

— А вы звярталі ўвагу, як даказваецца адсталасць перадрэвалюцыйнай Расіі? Параўноўваюць эканамічныя, адукацыйныя і іншыя паказчыкі ўсёй Расійскай імперыі з аналагічнымі паказчыкамі метраполіі Брытанскай або Французскай імперыі. Гэта некарэктны прыём, якім доўга карысталіся нашы палітыкі і гісторыкі. Між тым факты і аб'ектыўныя лічбавыя паказчыкі пераконваюць, што на пачатку

(Заканчэнне на 3-й стар.).




—105—

— Ну, Тугоўскі, — засьмяяўся ён, калі пабачыў, што той глядзіць на яго, — уставай, пойдзем на рандку.

—Можаш сабе, — буркнуў Тугоўскі, не жадаючы з ім і размаўляць.

— Эх ты, сонька Тугоўскі, ты зусім нічога ня цяміш адносна жанчын... Яны б цябе засьмяялі-б і вадзілі-б вось так. — Пры гэтых словах узяў сябе за нос — пачаў вадзіць ува ўсе бакі па пакоі.

— Прыжджаў хутчэй, конскі партрэт, — злобна сказаў Тугоўскі. Ён ужо ня мог больш цярпець гэтага сьпевака і карцёжніка, прыставаўшага да яго і кусаўшагася, як муха. Яшчэ-б хвілі — і Тугоўскі гатоў быў кінуцца на яго з палкай.

— Брава, брава, — закрычаў астральны чалавек з-пад кучы сваіх коўдраў... — Лоўка вы яго назвалі: "Конскі партрэт". Запраўды, у яго вочы вялікія, як у каня.

— Ты, зачыні коўдрай свой астральны дух, —сьмеючыся, глядзеў на яго Серада. І, сьмеючыся, паставіўшы люстэрка, як ня ў чым не было вышаў напудраны з пакою.

— А, добры вечар, грамадзянін Тугоўскі, — казаў астральны чалавек, працягваючы яму рукі.

— І вы тут апынуліся сярод нас, — гаварыў, калі яны засталіся адны зноў. — Ну як жывяце? Даўно мы не бачыліся.

— А ведаеце, — усьмяхнуўся Тугоўскі, — пацьвярджаецца тэорыя роджаных пад Сатурнам...

— Гэта нічога, — казаў сур'ёзна тонам прарока астральны чалавек, — мы толькі павінны прызнаць, што над намі ёсьць вышэйшая сіла, якая кіруе намі. Мы павінны ведаць свае недахопы, свае слабасьці характару, але мы сваімі ўласнымі намаганьнямі павінны імкнуцца зьнішчыць іх...

—106—

Калі ведаеш наперад, дзе паваліўся, тады лягчэй можна аберагчы сябе і падаслаць салому, праўда?

— А ўсё ж ткі гняце мяне псыхалёгія. Я больш не магу глядзець на будучыню з верай, калі я радзіўся пад Сатурнам...

— Вось ад гэтага я хачу вас папярэдзіць, — сур'ёзна глядзеў, прадоўжываў сваім скрыпучым непрыемным дыскантам астральны чалавек. — Гэта было-б зусім неправядловае разуменьне астралёгіі, як навукі. Калі-б вы, ведаючы, што радзіліся пад Сатурнам, апусьцілі рукі. Зусім не... Нам трэба больш змагацца, трэба быць больш упартымі, калі мы ведаем, што на нашай дарозе розы не растуць, а шыпы, і пападаюцца правалы велізарныя. Але кінем філёзофію. Скажу вам я па-сяброўску: канчайце універсытэт... Атрымлівайце хутчэй дыплём, бо інакш вас затруць у жыцьці такія людзі, як Серада ці Загорскі. Мая справа, зразумела, у баку, але я не магу глядзець спакойна на вашыя хваляваньні, няпэўнасьць. Вы сталі нейкім змучаным, хворым, пажоўклым, быццам у вас пачаўся працэс сухотаў... Вы кашляеце? Не?

Тугоўскі адмоўна пакачаў галавой...

— Не?.. Тады добра... Мне самаму стала непрыемна, што я вам адкрыў ісьціну, а вы так блізка прынялі яе да сэрца, што зараз хварэеце за яе. Не рабіце гэтага... Больш веры ў сябе... Вы геніяльны чалавек, Тугоўскі! Так, ня сьмейцеся! Вы яшчэ, можна сказаць, як дзяцёнак. І дзеля гэтага было-б праступленьнем, каб вы, чысты, ідэальны чалавек, не сапсуты жыцьцём, былі-бы зацёрты такімі эмігрантамі, як тыя, што жывуць у нашым інтэрнаце. Адзінае аружжа процій іх — гэта дыплём. Змагайцеся зараз за дыплём. Усімі сіламі за

—107—

дыплём інжынера ці доктара... Інакш вас заўтра ў жыцьцё ня пусьціць дурань з дыплёмам... Дыплёмаваны дурань. Разумееце вы гэта, так ці не?

— Выбачайце, — пачаў Тугоўскі, — я вучуся для навукі, а не для дыплёма...

— Ах, як вы мяне не разумееце, мілы чалавек, — заварушыўся астралёг на коўдрах... — Справа не ў выразах, мы не гімназісты з вамі, каб спрачацца з-за слоў... Усё роўна, як вы там будзеце вучыцца: для навукі ці не, але вам патрэбны дыплём. Паверце мне, астральнаму чалавеку з дагарэўшым жыцьцём. Я не казаў можа быць усяго, каб не стаў сам перад варотамі могілак, перад канцом майго стракатага й бескарыснага жыцьця. Цяпер, калі нікога няма ў інтэрнаце, я скажу вам: у мяне сухоты ў апошняй стадыі. Кожны дзень я выплёўваю чырвоныя кавалачкі крыві, кожны дзень я выхарківаю жыцьцё... Паслухайце, якія ржавыя петлі скрыпяць у маіх грудзёх. Хутка, хутка ад мяне застанецца адно астральнае цела... Але ж былі часы, калі я не валяўся так пад коўдрамі, як зараз. Вы ня думайце, я студэнт апошняга курса юрыдычнага факультэту, я быў афіцэр аўстрыйскай арміі. Я жыву і лічуся студэнтам... Але, што зробіш. Я атрымаю свой дыплём тады, калі буду ляжаць у магіле... Як прыгожа, праўда? Мне пакладуць мой дыплём доктара юрыдычных навук заместа вянка на магілу. — Ён памаўчаў крыху, зноў прадоўжываў: — Дык вось усё гэта кажу я вам для таго, каб вы зразумелі, што я зусім не зацікаўлены ў вас: г. ё. мне ўсё роўна, ці будзеце вы веруючым будыстам і астралёгам, ці будзеце веруючым інакш або зусім бязверуючым. Абсалютна не

—108—

зацікаўлены я ў тым, будзе ў вас дыплём ці не. Але я хачу вам даць раду... Даць раду, таму што як старэйшы і бачыўшы жыцьцё, па-другое, як чалавек, катораму час гніць. Жывіце, красуйцеся, гуляйце й расьціце, мілы чалавек Тугоўскі. Гляджу я на вас і дзіўлюся: колькі ў вас яшчэ маладосьці, сілы, неізжытай энергіі, якія вы проста не пускаеце ў справу. Кіньце ўсе гэтыя сілы на завяваньне дыплёму!

Тугоўскі маўчаў. Ён толькі глыбока ўздыхнуў, калі астральны чалавек скончыў сваю доўгую прамову.

— А вы можа кахаеце? — запытаў ціха астральны чалавек. — Выбачайце за няскромнасьць.

— Прызнацца шчыра, — усьміхнуўся Тугоўскі, — кахаю...

— Кіньце, мілы чалавек, кіньце. Кахаць вы будзеце тады, калі ў вас будзе дыплём, — праўда. Падумайце самі, каго вы зараз можаце кахаць. У самаго, кажуць, ні кала ні двара... Самі яшчэ дзяцёнак... Каго тут кахаць? Ды не, кіньце, проста адлажыце гэтую справу на задні двор. Цяпер займайцесь больш паважнымі справамі. Будзе ў вас дыплём, будзе ахвота да гэтага дабра, а жанчын знойдзеце, колькі захочаце...

Тут ён закашляўся, зноў схаваўся пад свае коўдры. Тугоўскі задумаўся над яго словамі й вылецеў з пакою.

### III

Усё ж такі шмат праўдзіловага казаў астральны чалавек! Дыплём! Гэта маяк у цемры яго жыцьця! Ня раз можа быць у бурную ноч жыцьця, калі ён

—109—

будзе гінуць і будзе кідаць у сьвет крык "Ратуйце", гэты дыплём будзе пасылаць яму сьвет ратунку! Без дыплёму яго "затруць у жыцьці", як казаў астральны чалавек. Трэба запраўды кінуць на час каханьне і Вярхоўскую. Адно павінна стаяць перад ім зараз — гэта дыплём.

Ён пачаў акуратна хадзіць на лекцыі. Кожны ранак, калі ўвесь інтэрнат спаў і ў пакоях было цёмна, ён уставаў, мыўся, апранываўся і выхадзіў на вуліцу. Прага ўжо шумела. Працоўная Прага ўставала вельмі рана. Па вуліцах валіла шумная армія чыноўнікаў, работнікаў і вайсковых. Дзенідзе пападаўся прафэсар. Чэскія прафэсары ўстаюць напэўна за ўсіх прафэсараў свету раней і нідзе не пачынаюць так рана лекцый, як у Чэхіі.

У 7 гадзін зімой першая лекцыя чытаецца яшчэ пры электрычным асьвятленьні. Тугоўскі хадзіў акуратна на першыя лекцыі, хадзіў з сыстэматычнасьцей зьяўляўшагася на раньняе набажэнства, але з кожным днём усё больш, больш адчуваў разачараваньне. Прафэсары не давалі яму таго, што ён ад іх чакаў. Асабліва не падабаўся яму адзін прафэсар народнай гаспадаркі, або палітычнай эканоміі. Ён увесь блішчэў: блішчэлі яго залатыя зубы, блішчэў новенькі касьцюм, блішчэла залатая брошка ў гальштуку, блішчэлі лакіркі, блішчэла залатое пяро ў вечнай абсадцы, блішчэлі яго жоўтыя рукавічкі, калі ён выходзіў на вуліцу. Гэта быў прафэсар, якога ён бачыў на вуліцы ў Празе, які ўвесь час жыў у Парыжы й Жаневе, як сябра нейкага Міжнароднага Бюра Працы пры Лізе Нацый. У час яго адсутнасьці лекцыі чытаў яго асістэнт, з тварам круглым, як месяц у поўнату — тыповы лавачнік гастранамічнага магазіну. Лекцыі прафэсара вельмі цаніліся, й на іх было вельмі

—110—

цяжка папасьць, бо прыходзілі студэнты з усіх факультэтаў, а часамі й прыватная публіка. Адзін раз ён пачуў гэтага залатазубага прафэсара. Ён прыйшоў рана, ведаючы, што будзе прафэсар. Высокі дом і той глядзеў на яго сваімі велізарнымі каменнымі глыбамі сьцен, як сымбаль вечнасьці тэй навукі, якая папалася ў яго абоймах. Маршыроўкі шырокія з калёнамі ў прыгожым архітэктурным стылю, які ён яшчэ ня мог нават пазнаць; ня то сопійскім, ня то карынпскім з нейкімі моднымі дадаткамі лісткоў і завіткоў, прывялі яго ў шумную прасторную аўдыторыю. Прафэсара яшчэ не было. Студэнты, як вучні, шумелі, сьмяяліся, жартавалі, хадзілі ўзад і ўперад, нават пераладзілі парты. Больш усяго бестурботнымі й лёгкадумнымі здаваліся чэхі. У параўнаньні з задуменнымі сур'ёзнымі эмігрантамі яны выглядалі проста дзяцьмі. Беларусы з чырвонымі* вясковымі тварамі, маладыя й вясёлыя, глядзелі на ўсё адкрытымі ратамі, як вясковыя бабы на кірмаш. Яны ўсё прыймалі радасна, без задніх думак, яшчэ ні ў чым не разачараваныя, як дзеці, спакойна глядзеўшыя на вагонь і ня ведаўшыя, што гэты вагонь іх апаліць. Тугоўскі падумаў: "Як добра быць такім радасным, незадуманым чалавекам, прыймаючым сьвет такім, якім ён ёсьць". Ён быў іншым. Жыцьцё прайшло па яго душы цяжкім плугам, пакінуўшы барозны. Яму заўсёды давалі на выгляд больш гадоў, чым ён іх меў. Цяпер ён чуў, што стаў яшчэ

—111—

больш старым, маладым гадамі, але старым душой. Жыцьцё ў Празе пакінула ў ім не адну баразну мукі й здавалася толькі пакутай.

Тугоўскі спыніўся і агледзеў аўдыторыю. Беларусы махалі яму рукой, даючы знак, што яны маюць для яго мейсца на партах. Высокі Бурак, махаючы сваімі вялікімі працоўнымі рукамі, крычаў на ўсю аўдыторыю. Тугоўскі неахвотна пайшоў на заклік да сваіх землякоў і зараз жа наваліўся на Бурака:

— Ты чаго крычаў, як быццам на полі пры сільным ветры... Памятай, што ты не на вёсцы.

У гэты час увайшоў прафэсар. Настала магільная ціша. Усе замёрлі й заскрыпелі алоўкамі па паперы. З самых першых слоў прафэсара Тугоўскі пачаў яго ненавідзець. Прафэсар абараняў капіталізм, лаючы марксызм. Ён злосна высьмееваў сацыялістаў, паказываючы пры гэтым поўны рот залатых зубоў.

— Больш 30 гадоў, — казаў ён, — я вывяраў марксызм. На працягу гэтага пэрыяду параўніваў, на падставе доўгіх навуковых досьледаў зрабіў выснову. У сьвеце пануе асоба-адзінка і эканамічныя інтарэсы гэтай адзінкі. Імкненьні да эканамічнага росквіту адзінкі не пярэчуць грамадскім інтарэсам, наадварот, яно іх толькі развівае. Возьмем які-небудзь прыклад, з якога вам стане ясней мая думка. Возьмем, напрыклад, якога-небудзь півавара. У Пільзэне жыве чалавек, маючы невялікі завод з дрэннымі старымі машынамі. Піва выходзе горш, чым з іншых заводаў, праца дрэнна аплочываецца. Ён хоча выратаваць сваё прадпрыемства, ён хоча атрымаць больш зыску[1]. І вось ён заводзе новыя машыны, ён прывозе новых інжынераў, ён павялічвае завод. Ён хоча якой-бы то

—112—

ні было цэнай павялічыць свой зыск. Але для гэтага ён павялічвае якасьць піва. Машыны павялічваюць яму колькасьць яго, а павялічваючы колькасьць, ён павялічвае якасьць піва, магчымасьць выпускаць яго танней. Такім чынам, што ж сталася... Негатыўнае, чыста эгаістычнае імкненьне півавара атрымаць як мага зыску прымусіла яго зрабіць шмат дадатных крокаў павялічыць якасьць піва, паменшыць яго цану, павялічыць плату рабочых. Знача, яго эгаістычнае імкненьне для нажывы мела зусім дадатнае грамадскае значэньне! Дык вось, вы бачыце, што імкненьне адной асобы разбагацець — зьяўляецца карысным для ўсяго грамадства!..

Тугоўскі задумаўся: ці праўду кажа гэты залатазубы прафэсар? Ён успамінаў, што калісьці ў Харкаве, калі ён быў яшчэ рэалістам, у аддзеле прапаганды дзянікінскай арміі расейскі аканаміст прафэсар Лявіцкі[2] даказываў гэтую самую думку. Як дзіўна аднадумны гэтыя два прафэсары, аб існаваньні адзін аднаго, напэўна, нават ня ведаючых. Вось што знача буржуазная навука. Гэты прафэсар кладзе ідэйны фундамэнт усей чэскай тэхнікі! Так думае напэўна прафэсар фізікі й хіміі, матэматыкі й астралогіі: так думаюць яны ўсе, выхаванцы маладога пакаленьня. Так пачынае думаць пакрыху й кожны студэнт, апраўдываючы ўсю існуючую сыстэму эканамічнага панаваньня адзінак.

Працяг.
Пачатак у №№ 23 — 35.

[1] Зыску — прыбытку.

[2] Лявіцкі Арэст Іванавіч (1848 — 1922), украінскі гісторык, правазнаўца, археограф, архівіст і пісьменнік, акадэмік АН УССР (з 1919).

## ДЗЯРЖАВА І РЭЛІГІЯ





У Брэсце на рацэ Мухавец адбыўся абрад хрышчэння. Яго правялі некалькі абшчын Царквы Евангельскіх хрысціян-баптыстаў. У рытуале прынялі ўдзел таксама місіянеры з Францыі і Канады. Здзейсніўшы абрад, больш трыццаці брэстаўчан прынялі новую веру.
НА ЗДЫМКУ: у час богаслужэння ля ракі Мухавец; абрад воднага хрышчэння на рацэ Мухавец.

Фота Э. КАБЯКА.

ГОСЦІ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ»

# ПРА ХЛЕБ, ВОЛЮ І СТРАХ

З Пятром Чайкоўскім і Алесем Гатковічам была папярэдняя дамоўленасць: яны прыедуць з Маладзечна, дзе абодва гасцявалі ад пачатку жніўня ў сваіх крэўных, у Мінск і зойдуць у рэдакцыю ў аўторак, 20-га. Але 19 жніўня здарылася тое, ад чаго яшчэ і сёння не толькі мы, а і ўвесь свет не супакоіцца — дзяржаўны пераварот у краіне. З песімізмам паглядаючы на гадзіннік (час сустрэчы набліжаўся), я быў перакананы: не прыедуць. Не прыедуць ні сёння, ні заўтра, бо не да гасцін ужо ім, відаць, адна думка дакучае: як хутчэй выбрацца з гэтага савецкага пекла ды вярнуцца назад, у ціхую, спакойную Англію.

Я пашкадаваў, што не пабачу болей маіх чытачоў, але разумеў стан іх душы. Ды раптам праз дзень, а было ўжо 22 жніўня, калі рэхам па краіне адбіваліся з Масквы першыя воклічы перамогі над неабальшавіцкай рэакцыяй, расчыняюцца дзверы, і Пётр з Алесем працягваюць мне рукі для прывітання. Вядома ж, і гамонка наша пра тое пайшла, пра што ў тыя дні ў нас гаварылі ўсе. Але на маё пытанне, як яны сустрэлі падзеі ў нашай краіне, я не пачуў хуткага адказу і не ўбачыў радасці ў вачах двух беларусаў з Англіі. Наадварот, я ўбачыў збянтэжанасць і няўпэўненасць на іх тварах. Пасля паўзы Алесь, гледзячы на дыктафон на маім стале, прамовіў:

— Ці нам ёсцека гаварыць асцярожна, ці мы можам гаварыць вольна і шчыра, так, як думаем? Бо хто ведае, што станецца заўтра? Ці даедзем мы пасля гэтага дамоў?

Каб супакоіць маіх гасцей, я катэгарычна адказаў ім: заўтра, ужо вядома, што станецца. І тады наша гутарка ажывілася, кожны "выкладваў" тое, што думаў.

— Мы былі вельмі і вельмі занепакоеныя, — прызнаўся Алесь Гатковіч. — Нам стала сумна: магчыма, усё вернецца да таго, што было калісьці. Гэта амаль што пачаткі сталінізму. Мы баяліся за Гарбачова, хаця разумеем, што ён не даў нам, народу нашаму ў поўнай меры ўсяго таго, што мы хочам. Але ён зрабіў першы крок да дэмакратызацыі. Ён зняў ярмо страху з Еўропы, а гэтым самым даў падставы савецкаму чалавеку, і беларусам таксама, мець пашану сярод заходніх дзяржаў. І гэта Гарбачоў зрабіў, а не хто іншы! Добры ён палітык ці не — зробленага ад яго ніхто не адбярэ ніколі. Без яго не было б перастройкі, без Гарбачова і далей вялікая частка Еўропы была б у няволі.

Пётр Чайкоўскі згадаў пра доўгія гады "халоднай вайны", і мне стала зразумелай трывога і Еўропы, і Амерыкі, народжаная ўсёй паваеннай палітыкай супердзяржавы, якая разлеглася на карце свету ад Балтыйскага мора і Карпацкіх гор да Ціхага акіяна.

— Я быў здзіўлены, — працягваў Гатковіч, — учора вечарам мы былі ў гасцях. Дарэчы, гэта самы цяжкі абавязак — хадзіць тут у госці, проста пакута. Толькі еш ды пі, мы ў Англіі да гэтага не прызвычаены. Кажу да сваіх: адкуль у вас усё бярэцца? Такі цяжкі час, крамы пустыя, а ў вас сталы ламаюцца ад яды і пітва...

Але гэта — да слова. Дык вось сядзім мы ўсе за сталом, а адзін з маіх пляменнікаў у суседнім пакоі слухаў навіны і раз-пораз прыходзіў і нам усё пераказваў. І вось ён улятае да нас і крычыць ад радасці: "Гарбачоў вяртаецца ў Маскву!" Усе шалёна запляскалі ў далоні і ўзнялі тост за Гарбачова. Бачыце, як народ яго шануе.

Так, і я быў сведкам, калі людзі радаваліся за свайго Прэзідэнта, за яго вызваленне. Бачыў, думаў над гэтым і не разумеў. Свае сумненні я выказаў маім гасцям:

— Вось цяпер растлумачце мне. Можа вы гэтага не адчуваеце, бо жывяце там, але ў нас іншае стаўленне да свайго Прэзідэнта. Да перавароту ў нас, як кажуць, аб Гарбачова ногі выціралі: давёў краіну да ручкі, жывем блага, куды лепш жылі пры Брэжневе, сварымся і праліваем кроў. На мітынгах, якія хвалямі пракатваліся з усходу Саюза на захад, адно з найпершых палітычных патрабаванняў было — далоў Гарбачова! Чаму ж цяпер усе за яго?

— Таму што людзі баяцца павароту да старога, — адказалі мне суайчыннікі. — Яшчэ можна трываць, калі ў магазінах нічога няма, але ты можаш нешта сказаць, не апасаючыся кары за гэта. Людзі баяліся тых, хто захапіў уладу, дзейнічаючы супраць канстытуцыі. Людзі помняць і ніколі не забудуць сталінізму, калі за адно неасцярожнае слова маглі расстраляць, саслаць на Салаўкі ці на Калыму.

— А яшчэ наконт папулярнасці Міхаіла Гарбачова я хачу дадаць наступнае, — сказаў Алесь Гатковіч. — Мая пляменніца неяк пісала да мяне ў Англію, што яна не можа зразумець, як гэта скінулі такую паважаную, нават любімую ў Савецкім Саюзе Маргарэт Тэтчэр. Дык я ёй адказаў так: яна такая любімая ў нас, як Гарбачоў у вас. Чым далей ад СССР, тым больш ён папулярны. Таксама і наша Маргарэт.

Кажуць, што госць больш заўважае, чым гаспадар. Таму мне карцела даведацца, ці спаткалі Чайкоўскі з Гатковічам у тыя трывожныя дні людзей, якія цешыліся б з перавароту, і ці многа было такіх людзей.

На маё здзіўленне, ім трапілася толькі адна асоба, якая шчыра, з надзеяй вітала тое, што адбылося ў краіне. І калі Пётр Чайкоўскі, засмучоны пачутым, спытаў тую асобу: "Ці ты хацела б мець вольнасць ці хлеб?", яна адказала: "Лепш хлеб. Змучылі вечныя чэргі ля пустых магазінаў".

Вядома, у тыя трагічныя для нашай краіны дні ўсе мы думалі пра тое, што будзе заўтра, і намагаліся зазірнуць хаця б у бліжэйшую будучыню. Таму мяне цікавіла, якой яе бачаць нашы суайчыннікі.

— Што з вамі будзе далей? Бяда будзе. І надалей нічога не будзе ў магазінах. Зноў людзі будуць наракаць на Гарбачова. Але я думаю, — мяркуе Алесь Гатковіч, — пра найгоршае: Захад вам не будзе верыць. І да сёння Еўропа і Амерыка былі асцярожныя, а цяпер, як кажуць, раз укушаны змяёй... Паглядзіце, што рабіла Англія: не даваць фінансавай дапамогі Савецкаму Саюзу, а толькі тэхналогіі, бо былі засцярогі: хто ведае, на што гэта пойдзе, а што, як на ўзбраенне? Цяпер, мне думаецца, нават тыя замежныя фірмы, якія тут пазакладалі сумесныя прадпрыемствы, не будуць спяшацца ўкладваць свой капітал. Гэтым пераваротам вы адкінулі стасункі з дэмакратычнымі краінамі на 25 гадоў назад. І цяпер цяжка будзе аднавіць давер...

На маю нязгоду з такім меркаваннем: назаўтра пасля разгрому "путчыстаў" усё набудзе сваю раўнавагу, усё стане, як і было да перавароту, мае замежныя землякі толькі адмоўна паківалі галовамі.

— Я думаю інакш, — запярэчыў Пётр Чайкоўскі, — яны там, на Захадзе, цяпер будуць больш асцярожнымі.

І вядома ж, нас хваляваў лёс нашай Беларусі, пра якую дбаем і за якую трывожымся не толькі мы, але і яны — сотні тысяч нашых суайчыннікаў, рассеяных па ўсім белым свеце. Мы яшчэ не ведалі, што праз тры дні наш парламент абвесціць канстытуцыйнае права на незалежнасць Беларусі, і наш такі паслухмяны волі "старэйшага брата" народ, здаецца, пачне выпроствацца і адчуваць сябе народам. А тады ад Алеся Гатковіча я пачуў такія словы:

— Я думаю, што з беларускага нацыянальнага пункту гледжання, Барыс Ельцын больш прыхільны да таго, да чаго мы імкнёмся, чым Міхаіл Гарбачоў. Так доўга, пакуль будзе Гарбачоў, Беларусь не стане вольнай. І надалей будзе існаваць Беларуская Савецкая Рэспубліка. А з майго персанальнага пункту гледжання, калі яна ёсць савецкая, то яна не ёсць беларуская, гэта ўжо бальшавіцкая рэспубліка.

Я не супраць таго, каб Беларусь была ў Саюзе, можа, нават лепш было б нам, з эканамічнага пункту гледжання, быць у Саюзе, але каб мы пазбыліся слова "савецкая". І яшчэ што хацеў бы сказаць.

На маю думку, так доўга, пакуль помнікі Леніну застануцца на плошчах гарадоў і людзі будуць біць яму паклоны, нічога добрага не станецца. Камуністычныя фанатыкі таксама небяспечныя, як і рэлігійныя, бо яны кіруюцца не інтарэсамі свайго народа, а інтарэсамі сваёй веры.

***

Пётр і Алесь, відаць, шчасліва дабраліся да сваіх гнёздаў і іх ужо не агортвае пачуццё няпэўнасці і страху за сябе, а трывожныя думкі пра Беларусь не ідуць з галавы. Пётр Чайкоўскі зноў рыхтуецца да марафона, які пачнецца 15 верасня. За адзін прабег ён збірае да 200 фунтаў стэрлінгаў. А ў год Пётр бегае толькі на поўныя марафонскія дыстанцыі 4-5 разоў. Дай Бог яму здароўя...

Вацлаў МАЦКЕВІЧ.

# ЯК СПЫТАЮЦЦА НАС...

Працяг. Пачатак у № 35.

Тут раней сталі практыкаваць паравую сістэму. Больш хуткае развіццё земляробства стала ўмовай і больш хуткага развіцця рамёстваў — кавальства, ганчарства і інш. Ганчарны круг, напрыклад, у Сярэднім Падняпроўі выкарыстоўвалі ўжо ў IX стагоддзі. Сярэдняе Падняпроўе мела вельмі спрыяльныя ўмовы і для хуткага развіцця гандлю як унутранага, так і знешняга. Паўночныя і паўднёвыя раёны Сярэдняга Падняпроўя звязвала самая вялікая рака ў гэтым рэгіёне — Дняпро, у яе з усходу ўпадалі Дзясна, Трубеж, Супой, Сула, а з захаду — Рось, Стугна, Ірпень, Цецераў, Прыпяць. Гэтыя рэкі разам з Дняпром злучалі ўсходнія і заходнія раёны з паўночнымі і паўднёвымі ў адзінае цэлае. Праз Сярэдняе Падняпроўе праходзілі гандлёвыя шляхі, што звязвалі лясную і стэпавую зоны, а таксама поўнач Еўропы (Скандынавію) з Візантыяй, Арабскім Халіфатам. Сярэдняе Падняпроўе з'яўлялася таксама фарпостам у барацьбе са стэпавымі знешнімі ворагамі: хазарамі, печанегамі, полаўцамі, якія імкнуліся падпарадкаваць сабе жыхароў лесастэпавай і ляснойзон. Паляне і северане разам з радзімічамі і вяцічамі плацілі даніну хазарам. Насельніцтва Сярэдняга Падняпроўя зразумела неабходнасць аб'яднання, згуртавання, каб абараніць свае землі. Усё гэта абумовіла карэнныя змены ва ўкладзе жыцця, сацыяльнай структуры, характары паселішчаў жыхароў Сярэдняга Падняпроўя, стала прычынай таго, што тут у IX—X стагоддзях узнікла самая вялікая колькасць гарадоў. Ужо ў гэты час у Сярэднім Падняпроўі існавала каля 10 гарадоў. На землях палянаў з'явіліся гарады Кіеў, Вышгарад, Белгарад, Васільеў, а на суседніх з палянамі землях заходніх севяранаў — Чарнігаў, Пераяслаўль. Гарады прыцягвалі і ўключалі ў свой асяродак людзей рознай этнічнай (нацыянальнай) прыналежнасці і перш за ўсё людзей суседніх супольнасцей. У гарадах палянаў пасяліліся і заходнія северане, а ў гарадах заходніх севяранаў — частка палянаў. Апрача таго, у гарадах палянаў і заходніх севяранаў, асабліва ў парубежных, якія знаходзіліся на паўднёвай граніцы, для абароны была паселена частка крывічоў, славенаў, вяцічаў, а таксама невялікія групы фінамоўнай чудзі і скандынаўскіх варагаў. У жыхароў гарадоў і сельскіх паселішчаў фарміраваліся агульныя інтарэсы, агульныя рысы культуры і мовы. Паляне, заходнія северане і невялікія групы крывічоў, славенаў, вяцічаў, чудзі і варагаў кансалідаваліся ў новую супольнасць, якая атрымала назву русы, русічы, русіны, рускія, а зямля гэтай новай супольнасці — назву Русь, Руская зямля. Спачатку тэрмін "русь" быў назвай невялікай і прытым хутка аславяненай групы знаці паўночнага паходжання — менавіта скандынаўскіх варагаў. Потым гэтую назву сталі ўжываць для наймення ўсёй сярэднедняпроўскай знаці не толькі паўночнага паходжання, якая ўключала невялікія групы (скандынаўскую і фінамоўную), але і мясцовыя, паўднёвыя, пераважна палянскай і севяранскай этнічнай (нацыянальнай) прыналежнасці. Тэрмін "русь", такім чынам, стаў абазначаць усю сярэднедняпроўскую знаць, якая кансалідавалася не толькі палітычна, але і этнічна.

Затым гэты тэрмін стаў ужывацца для наймення палітычнай арганізацыі (дзяржавы), і гэта зразумела, таму што знаць і была першапачатковым дзяржаўным апаратам (г. зн. дзяржавай). А найменне апарату кіравання (дзяржавы) стала адначасова і найменнем яе тэрыторыі, г. зн. атрымала значэнне тэрыторыі дзяржавы, а назва дзяржаўнай тэрыторыі затым перайшла на найменне яе жыхароў. Тэрмін "русь" стаў абазначаць не толькі дзяржаўную тэрыторыю, алеператварыўся таксама ў этнічную (культурную) назву, таму што ў жыхароў Сярэдняга Падняпроўя сфарміравалася адзіная ("руская") мова, агульныя рысы культуры, агульная этнічная самасвядомасць. Яны ўсведамлялі і называлі сябе русамі, русічамі, русінамі, рускімі, а сваю зямлю — Руссю, Рускай зямлёй. Новы этнас быў славянскім. "А словеньскый язык і рускый одно есть", — гаворыцца ў старажытным летапісе. Сярэдняе Падняпроўе было першым, галоўным цэнтрам фарміравання агульнаўсходнеславянскага этнасу, яго тэрыторыі — Русі.

Другі цэнтр фарміравання агульнаўсходнеславянскага народа і яго тэрыторыі знаходзіўся ў паўночнай зоне рассялення першасных усходнеславянскіх супольнасцей, размешчанай у асноўным на поўнач ад вярхоўяў Дняпра, Заходняй Дзвіны і Волгі да Фінскага заліва і Ладажскага возера. Паўночная вобласць рассялення ўсходніх славянаў уваходзіла ў лясную геаграфічную зону. Як і ў Сярэднім Падняпроўі, тут было шмат рэк як вялікіх, так і малых, размешчаных непадалёку адна ад другой. Край гэты меў спрыяльныя ўмовы для развіцця рамёстваў, і што асабліва важна, тут былі вельмі спрыяльныя ўмовы для развіцця гандлю як унутранага, так і знешняга. Гэта абумовіла ранняе ўзнікненне тут гарадоў. У зямлі славенаў у [illegible]—IX стагоддзях спачатку была пабудавана Ладага, а потым Ноўгарад, а ў зямлі суседніх ім паўночных крывічоў з'явіліся гарады Пскоў і Ізборск, пабудаваныя не пазней X стагоддзя. Насельніцтва гарадоў было змешаным па этнічнаму (нацыянальнаму) складу. У гарадах пасяліліся як усходнеславянскія групы (славены і крывічы), так і неславянсія групы — фінамоўныя (чудскія) і германамоўныя (варагі). Як і ў Сярэднім Падняпроўі, спачатку насельніцтва гарадоў, а потым і сельскіх паселішчаў кансалідавалася ў новы этнас, які таксама атрымаў назву русаў, русічаў, русінаў, рускіх, а яго тэрыторыя — Русь. Адбылося гэта так таму, што і ў Паволхаўі частка знаці была скандынаўскай па паходжанню. Яна таксама хутка аславянілася, злілася з астатняй знаццю (славенскай, крывіцкай, фінамоўнай), перадаўшы ёй сваё імя. Кансалідаваўшыся палітычна і культурна (этнічна), знаць Паволхаўя стала звацца адным імем — русы, русічы, русіны, рускія. Тут, як і ў Сярэднім Падняпроўі, паступова ўсё насельніцтва згуртавалася ў новы этнас, тэрыторыя якога таксама стала звацца Руссю.

Такім чынам, у IX—X стагоддзях на поўдні і на поўначы ўсходнеславянскіх зямель адначасова ўзніклі дзве часткі новай этнічнай супольнасці. У гэтых дзвюх частках новай этнічнай тэрыторыі з'явіліся дзве новыя дзяржавы. Паміж Паволхаўем і Сярэднім Падняпроўем даволі рана ўсталяваліся эканамічныя і палітычныя сувязі, абумоўленыя тым, што гарады гэтых земляў былі звязаны агульным Волга-Дняпроўскім гандлёвым шляхам і таму былі зацікаўлены ў сумесных намаганнях абараніць гэты гандлёвы шлях, свае землі ад знешніх ворагаў. Усё гэта было прычынай аб'яднання дзвюх дзяржаў. Ужо ў апошняй чвэрці IX стагоддзя некаторыя князі (у прыватнасці, Алег) з паўночных усходнеславянскіх гарадоў перайшлі ў Сярэднедняпроўскую Русь, менавіта ў Кіеў, узначаліўшы тут мясцовую знаць, захаваўшы пры гэтым сваю вярхоўную ўладу ў Паволхаўі. Злучэнне Паволхаўя (Верхняй Русі) і Сярэдняга Падняпроўя (Ніжняй Русі) адным агульным кіраваннем сведчыла аб узнікненні адзінай палітычнай арганізацыі (новай дзяржавы), названай таксама Русь. У рамках гэтай новай дзяржавы працягвалася фарміраванне агульнаўсходнеславянскага этнасу (рускага), яго этнічнай тэрыторыі — Русі.

### КАЛІ І ЯКОЙ РУССЮ БЫЎ НАШ РОДНЫ КРАЙ

Новая дзяржава — Русь адыграла важную ролю ў збіранні, згуртаванні ўсходнеславянскіх зямель. Ужо ў IX стагоддзі ў склад гэтай дзяржавы былі ўключаны землі дрыгавічоў, крывічоў, радзімічаў. У X стагоддзі гэтыя землі былі замацаваны як састаўныя часткі гэтай палітычнай арганізацыі. Іх насельніцтва пазбавілася ад спусташальных набегаў знешніх ворагаў. Радзімічы перасталі плаціць даніну хазарам, а некалькі пазней крывічы — варагам. Даніна, якую яны сталі плаціць рускім князям, выкарыстоўвалася не толькі для ўтрымання гэтых князёў і іх дружын, але, што асабліва важна, і для стварэння абарончых збудаванняў. Новая вялікая дзяржава стварыла спрыяльныя ўмовы для развіцця ўсходнеславянскіх земляў, у тым ліку і цэнтральных. Яна палепшыла і ўнутрыпалітычныя ўмовы іх развіцця, садзейнічала ўзнікненню тут новых гарадоў. У канцы X-XII стагоддзяў на тэрыторыі нашага роднага краю ўзнікае шмат новых гарадоў — больш пятнаццаці. Менавіта ў гэты час з'явіліся Заслаўль, Ваўкавыск, Бярэсце, Лукомль, Орша, Копысь, Рагачоў, Друцк, Менск, Лагойск, Браслаў, Слуцк, Клецк, Пінск, Гародня. Узнікненне і развіццё вялікай колькасці гарадоў у басейнах Прыпяці, Нёмана, Заходняй Дзвіны і Верхняга Дняпра было асноўнай прычынай глыбокіх змен у этнічным (культурным) абліччы насельніцтва гэтага краю. Спачатку ў гарадах, а потым і ў сельскіх паселішчах адбылося змяшэнне крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў і асобных груп балтаў, што не былі асіміляваны ў папярэдні час, калі фарміраваліся крывічы, дрыгавічы, радзімічы. Гэтыя асобныя групы балтамоўнага насельніцтва ў канцы X—XI стагоддзяў невялікімі астраўкамі размяшчаліся ў арэалах крывічоў і радзімічаў. У адрозненне ад Сярэдняга Падняпроўя і Паволхаўя ў басейнах Прыпяці, Нёмана, Заходняй Дзвіны і Верхняга Дняпра змяшэнне розных этнічных (культурных) груп, іх кансалідацыя ў новую супольнасць адбывалася некалькі пазней, у асноўным у канцы X—XI стагоддзях — пачатку XII стагоддзя, калі на поўдні і на поўначы ад нашага краю ўжо завяршылася фарміраванне новага этнічнага (культурнага) аблічча насельніцтва. У гэты час яно ўжо было рускім. Гэта аказала моцны ўплыў на напрамак і характар этнічных працэсаў (змяненне культурных супольнасцей) на тэрыторыі нашага краю ў канцы I — пачатку II тысячагоддзя н. э. Шматлікія гарады нашага краю ў гэты перыяд былі цесна звязаны з гарадамі сярэдняга Падняпроўя і Паволхаўя, у якіх насельніцтва па культуры і мове было ўжо агульнаўсходнеславянскім (рускім). Другім важным фактарам, які вызначыў напрамак змен у этнічным (культурным) абліччы мясцовага насельніцтва нашага краю, было ўключэнне яго ў склад старажытнай дзяржавы Русь, а таксама рэформа кіравання яго землямі, якую ажыццявіў у канцы X стагоддзя кіеўскі князь Уладзімір. Сутнасць гэтай рэформы заключалася ў тым, што адмяняўся ранейшы парадак, калі князямі, правіцелямі асобных абласцей (княстваў) былі прадстаўнікі мясцовай дарускай знаці. З гэтага часу вялікімі і мясцовымі князямі маглі стаць толькі прадстаўнікі велікакняжацкага роду — сыны вялікага кіеўскага князя або іншыя яго родзічы. Новыя князі мелі рускія дружыны. Дружыны мясцовых рускіх князёў аказвалі значны культурны ўплыў на астатнюю знаць гарадскіх і вясковых паселішчаў, садзейнічаючы ператварэнню яе ў знаць рускую. Князі і іх дружыны садзейнічалі згуртаванню мясцовага насельніцтва не толькі палітычна, але і этнічна (культурна), выпрацоўцы агульных рыс у мове, духоўнай культуры. Яны першымі прынялі новую, хрысціянскую рэлігію і актыўна распаўсюджвалі яе сярод крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў. Пашырэнне хрысціянства было важнай умовай узмацнення агульных рыс у рэлігійных вераваннях, а таксама ў іншых сферах жыцця (асабліва грамадскай, сямейнай, ва ўзнікшым прафесійным мастацтве). Пад уплывам вялікіх змен у тэрытарыяльных эканамічных сувязях, палітычных умовах жыцця, культуры, асабліва духоўнай, у прыватнасці ў рэлігіі, ранейшыя супольнасці — крывічы, дрыгавічы і радзімічы — кансалідаваліся ў новую агульнаўсходнеславянскую супольнасць і сталі называцца, як і іх суседзі на поўдні, поўначы і ўсходзе — русамі, русічамі, русінамі, рускімі, землі крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў — Руссю, Рускай зямлёй. Гэты працэс завяршыўся к сярэдзіне XII стагоддзя. Апошняе ўпамінанне назвы дрыгавічоў датуецца 1149 годам, крывічоў (як асобнай этнічнай супольнасці) — 1162 годам, радзімічаў — 1169 годам. У пісьмовых крыніцах ёсць шмат доказаў таго, што пасля знікнення назваў этнічных супольнасцей крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў насельніцтва нашага роднага краю стала называцца русамі, русічамі, русінамі, рускімі, а сам край — Руссю, Рускай зямлёй. Так, у скандынаўскай сазе першай паловы XIII стагоддзя жыхары Полацка, якія мужна змагаліся супраць скандынаўскіх князёў (конунгаў) названы рускімі. У дагаворы палачан з рыжанамі ў першай палове XIV стагоддзя Полаччына названа Рускай зямлёй. У пазнейшых летапісах полацкія князі і баяры таксама названы рускімі, а Полацкае княства — Рускім. Руссю называлася не толькі Полаччына, але і Віцебшчына, і Аршаншчына, і Тураўшчына. Нават новая дзяржава, што ўтварылася ў XIII—XIV стагоддзях ва ўсходняй Еўропе, у склад якой уваходзіў і наш родны край, стала называцца Вялікім княствам Літоўскім, Рускім і Жамойцкім. Правіцелі гэтай дзяржавы, у тым ліку і тыя, што былі першымі яе кіраўнікамі — вялікія князі Міндоўг і Гедымін, пры якіх з усходнеславянскіх зямель у склад гэтай дзяржавы ўваходзіла толькі тэрыторыя нашага краю, мелі тытул вялікіх князёў літоўскіх, рускіх і жамойцкіх. У гэтай дзяржаве спачатку жылі тры супольнасці — рускія, літоўцы (аўкштайты) і жэмайты. Самай вялікай супольнасцю ў ёй была агульнаўсходнеславянская (руская) супольнасць, культура якой знаходзілася на больш высокім узроўні развіцця.

Але Русь не была такой тэрыторыяй, на якой не было лакальных (мясцовых) адрозненняў у культуры і мове. Памылкова лічыць людзей агульнаўсходнеславянскай супольнасці, у тым ліку і на тэрыторыі нашага роднага краю, амаль ва ўсім аднолькавымі, уяўляць іх як блізнятаў, якія нічым не адрозніваюцца адно ад другога. Культура і мова, нават назвы людзей агульнаўсходнеславянскай супольнасці былі разнастайнымі. Такая разнастайнасць існавала і на тэрыторыі нашага роднага краю. Яго тэрыторыя адносілася ў той час да дзвюх дыялектна-этнаграфічных зон Русі. У першую ўваходзіла Папрыпяцце, у другую — Полаччына, Віцебшчына, Магілёўшчына. Мяжой паміж гэтымі зонамі ў нашым родным краі, магчыма, была рака Нёман. У Папрыпяцці галоўная земляробчая прылада — саха — была больш масіўнай. Для апрацоўкі глебы такой сахой выкарыстоўвалі больш моцных жывёл — валоў. Галоўная своеасаблівасць такой сахі заключалася ў тым, што ў ёй левы сошнік ставілі пад тупым вуглом да правага. Іх злучалі такім чынам, каб скіба зямлі адвальвалася ўправа, як гэта адбывалася, калі аралі плугам. Тут былі пашыраны шматвугольныя гумны, некаторыя своеасаблівыя рысы мела світа (з бакавымі ўстаўкамі). У Папрыпяцці быў больш пашыраны і меў больш развітую форму каравайны абрад. Тут раней, чым у Падзвінні і Падняпроўі, усталявалася новая традыцыя — адзначаць новы год не вясною, а зімою. Таму тут раней з'явілася зімовае навагоднее свята — каляды. Яно было тут больш пашырана і было больш яркім, маляўнічым, чым у Падзвінні і Верхнім Падняпроўі. Насельніцтва Папрыпяцця адрознівалася ад жыхароў Падзвіння і Верхняга Падняпроўя і асаблівасцямі гаворкі. У Папрыпяцці ў позні агульнаўсходнеславянскі перыяд, г. зн. з сярэдзіны XII стагоддзя гукі "р" і "ч" сталі вымаўляць цвёрда. У гаворцы насельніцтва Папрыпяцця з'явіліся дыфтонгі (спалучэнне ў адным складзе дзвюх галосных) уо, іе. У насельніцтва Папрыпяцця ў адрозненне ад жыхароў Падзвіння і Верхняга Паднярооўя быў больш нізкі рост, больш цёмныя валасы. Папрыпяцце, да якога адносіліся паўднёвыя землі сучаснай Беларусі і паўночныя землі сучаснай Украіны, адрознівалася ад Падзвіння і Верхняга Падняпроўя і сваёй назвай. Летапісныя крыніцы сведчаць, што гэтая частка этнічнай тэрыторыі Русі называлася Палессем, а яе жыхары — палешукамі (гл. Ипатьевская летопись. ПСРЛ. Т. 2. М., 1962, с. 873, гл. таксама дадатак да гэтага летапісу "Приложение. Разночтения из Еромалаевского списка" — с. 81). Назва палешукі была мясцовай (рэгіянальнай) назвай русаў, русічаў, русінаў, рускіх. І замяніла тут такія назвы, як драўляне, дрыгавічы. Палешукі ў той час жылі ў некалькіх асобных самастойных усходнеславянскіх дзяржавах, у прыватнасці ў Пінскім, Слуцкім, Кобрынскім і іншых княствах і адпаведна падзяляліся на больш дробныя тэрытарыяльна-палітычныя або проста тэрытарыяльныя групы са сваімі назвамі — пінчане, случчане, берасцяне і інш.

На поўнач ад Палесся, за ракой Нёман, пачыналася другая культурная, дыялектна-этнаграфічная зона Русі, да якой адносілася, у прыватнасці, Падзвінне і Верхняе Падняпроўе. Асноўнай земляробчай прыладай у гэтай зоне была саха з перакладной паліцай. У адрозненне ад палескай яна не была такой грувасткай. Для арання такою сахою выкарыстоўвалі не валоў, а коней. Сашнікі ў такой сахі ставілі паралельна адзін другому, а для адвалу зямлі прымацоўвалі каля іх лапатку, якая называлася паліцай. У Падзвінні гэтую паліцу ў час арання перакладвалі ад аднаго сашніка да другога і таму называлі "перакладной паліцай", "перакладкай". Гумны ў гэтай зоне мелі прамавугольную форму.

**Міхась ПІЛІПЕНКА.**

НА КАНЦЭРТАХ ДЗІЦЯЧАГА ФАЛЬКЛОРНАГА АНСАМБЛЯ «ГОСЦІЦА»

# ВЕРА Ў ПЕСНЮ



Свежае паветра і гучанне ручайка, подых навальніцы і гамалівую "талаку", ціхую малітву і жалобную памінальную песню — усё вы пачуеце і ўбачыце, калі пабываеце на канцэрце дзіцячага фальклорнага тэатра "Госціца" Дзяржтэлерадыё БССР. Калі глядзіш на выступленне дзяцей, забываеш пра непрыемнасці, душа святлее, і адчуваеш незразумелую вялікую радасць, бо дакранаешся да чысціні дзіцячых душ. Народная песня падхоплівае цябе і нясе ў свет, які кожны разумее па-свойму і дзе кожнаму ёсць месца. Перад вашымі вачыма ствараецца цуд, нібыта губляецца час, і вы становіцеся ўдзельнікамі народных свят і абрадаў.

Але цуд не ствараецца сам сабой. За ім стаіць вялікая напружаная праца ўдзельнікаў калектыву і ў першую чаргу мастацкага кіраўніка Ларысы Сімаковіч. Неардынарнасць поглядаў, таленавітасць, прынцыповы падыход да сваёй працы — характэрныя рысы гэтай маладой жанчыны. За плячыма грунтоўная падрыхтоўка спачатку на дырыжорскім, а потым на кампазітарскім факультэце Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, праца з харам Дзяржтэлерадыё БССР, харавой капэлай таварыства сляпых, якая зараз з'яўляецца прафесійным калектывам.

"Госціца" з'явілася нечакана. Калі на тэлебачанні вырашылі стварыць дзіцячы калектыў, то прапанавалі ўзначаліць яго Ларысе, бо фальклорам яна цікавіцца даўно. Яшчэ са студэнцкіх часоў удзельнічала ў фальклорных экспедыцыях па Беларусі. Фальклор зараз модны, існуе вялікая колькасць калектываў, але "Госціца" прыкметна выдзяляецца сярод усіх. Чаму? Мне здаецца, што большасць калектываў арыентуецца на публіку, гледача. Бяруць тое, што лягчэй для выканання і ўспрымання. Не дакопваюцца да вытокаў, як, чаму, дзе і калі ўзнікла тая ці іншая песня. Ларысу ж цікавіць усё гэта, яна працуе з аўтэнтычным фальклорам, і галоўнае ў працы не тое, што адбываецца на сцэне, а тое, што на рэпетыцыі. Перш чым пачаць спяваць, абавязкова вядзе размову пра песню, яе вытокі, тэму. Ідзе выхаванне дзіцяці, яго знаёмства з гісторыяй і культурай Бацькаўшчыны, і калі потым маленькі чалавек спявае на сцэне, мы чуем не проста прыгожыя спевы. Дзіця прапускае ўсё праз сэрца, бо разумее, пра што пяе.

Пытаюся ў Ларысы:

— Што ў вашай працы асноўнае?

— Я працую са сталічнымі дзецьмі, якія выхаваны на "Ласковом мае", многія з іх ніколі не былі на вёсцы. Але тут яны пазнаюць родную мову, культуру, выхоўваюцца ў традыцыях беларускага народа. Мяне цікавіць больш не вынік, а работа, працэс, пошук.

— Якія дзеці спяваюць у "Госціцы"? Па якіх крытэрыях вы іх адбіраеце?

— Дзеці самыя розныя. Ад 3 да 18 гадоў. Спачатку падбіралі дзяцей больш-менш па голасу і слыху, але пазней сталі браць на перспектыву: ёсць дзеці з нейкім амплуа, не абавязкова, каб яны спявалі. Галоўнае — унутраны патэнцыял дзіцяці. Заўсёды відаць, на што хлопчык ці дзяўчынка здатны. Бываюць такія вочкі — нібыта чысціня першага мёду, нельга адарвацца. Паказчыкам здольнасцей трохгадовага чалавека з'яўляецца яго тэмперамент, глыбіня, дадзеная Богам, такое заўсёды відаць; у старэйшых — больш замуравана, але тое самае, і я павінна зняць усё непатрэбнае, накручанае вакол яго павуцінне, вызваліць голас.

— Я так разумею, што дзяцей вы прымаеце ўсіх, але потым яны самі па нейкіх прычынах пакідаюць "Госціцу". Ці так? хто і чаму застаецца?

— Спачатку дзяцей прыходзіць шмат, але застаецца мала — самыя здольныя і вельмі закаханыя ў беларускую песню. А пакідаюць па розных прычынах. Могуць быць і нейкія чыст. бытавыя абставіны, а ў некага проста не атрымліваецца, няма асаблівага жадання працаваць. Але з тымі, хто застаецца, працуем сур'ёзна. Пасля нялёгкай працы дзеці адчуваюць найвялікшую асалоду, шчасце, а ў слухачоў — спазм у горле і мурашкі па целе.

— "Госціца" не проста хор, а фальклорны тэатр, на сцэне адбываецца дзеянне. Што для вас фальклор? Адкуль бераце матэрыял?

— Беларускі фальклор у сілу гістарычных абставін, самы кансерватыўны. Мяне найбольш вабіць аўтэнтычны фальклор. Тэксты бяром з кніг, экспедыцый, запісаў. Здымаем нейкія напластаванні. Вось прыклад. Каляды. Усе ведаюць, што ходзяць калядоўшчыкі і калядуюць, збіраюць падарункі і жадаюць добрага лета. Усё весела, абавязкова кола са знакам сонца, нейкія маскі, каза. Мяне раней заўсёды гэта неяк бянтэжыла: калядоўшчыкі што цыганка: я табе пагадаю, а ты мне хоць капейку, але дай. Потым і зразумела, што калядоўшчыкі — гэта нейкая субстанцыя паміж жывымі і мёртвымі, і ўсё тое, што яны збіраюць, гэта не для сябе, а для памерdescribed. Каляда не для нас — для продкаў, як Дзяды. Продкі не паміраюць. Яны застаюцца з намі, адыходзячы проста ў іншы свет.

Фальклор — закадзіраваная касмічная інфармацыя. Казкі — уменне разумець прыроду, сілу зямлі, дрэва. Продкі ведалі, як браць сілу ў прыроды, сучасны чалавек загнаў сябе ў нешта такое, што незразумела, хто ён сам, дзе яго карані.

Песня — жывая энергетыка. Яна нясе вялікую біяэнергетычную каштоўнасць, яна фарміруе характар, будучыню чалавека. Фальклор — крываносная сістэма душы чалавека. Калыханка, якую спявае маці — гэта гукавы абярэг ад злых сіл. Таму абавязкова трэба спяваць немаўляці калыханку, гладзіць па галоўцы. А матэрыял у нас з кніг, экспедыцый, запісаў.

— Як вы ствараеце свае праграмы?

— Галоўнае ў пастаноўках — усё праз дапушчэнне, інтуіцыю. Зараз я адкрываю любую песню і адчуваю яе без нот, а потым гэта супадае. Тое, што гучыць у выкананні дзяцей, вельмі адрозніваецца ад арыгінала. Дзіця танцуе і спявае, што хоча, фантазіруе. Я не замінаю дзіцяці, а бяру ад яго, бо ў дзяцей вобразная сістэма ўспрымання. Кожны спявае па-свойму. Галоўны крытэрый — прыгажосць і мастацтва.

— Хто яшчэ працуе з вамі з дзецьмі?

— Валянціна Варзіева — хормайстар, таксама скончыла кансерваторыю, цудоўны, вельмі добры і высокапрафесійны чалавек. Цікавы ў нас рэжысёр Людміла Новік. Усе мы аднадумцы і добра разумеем адзін аднаго.

— Вы паднялі такі глыбокі і вялікі пласт фальклору, а вас усяго тры маладыя жанчыны. Ці не цяжка вам, дапамагае хтонебудзь? На што вы існуеце?

— Ой, цяжкае пытанне. У "Госціцы" грошай няма, мы нічога не зарабляем, нягледзячы на немалую колькасць канцэртаў. Жывём на тыя грошы, што дае Дзяржтэлерадыё. Мар і задум шмат, стараемся рабіць усё, што ў нашых сілах, хаця, канешне, ад спонсара не адмовіліся б. Пакуль што мы разлічваем толькі на сябе.

Мне давялося прысутнічаць не толькі на канцэртах, але і на рэпетыцыях "Госціцы", і ўражвала, як дзеці ўважліва і сур'ёзна ставяцца да сваёй працы. Паміж кіраўнікамі і малымі артыстамі — поўнае ўзаемаразуменне, размова на роўных. Калі нехта не згодны — спрэчка, але ніякага націску, перамагае сіла розуму і праўда. І як прыемна, калі пасля рэпетыцыі ці канцэрта дзеці выходзяць з залы стомленыя, але працягваюць спяваць, няхай ціха, пад нос, самі сабе, але песня не канчаецца. Зазірніце і вы ў душу маленькага дзіцяці, уявіце сабе яго вочкі і адчуеце асалоду ад дзіцячага голасу і тэмпераменту:

**На гары жабка красенцы ткала,**
**Прыехаў рачык ды к жабцы у сваты:**
**На што табе, жабка, чатыры лапкі?**
**А на што табе, рачык, ды ззаду вочкі?**

На вашым твары з'явілася ўсмешка? Яе падарыла вам "Госціца"!

**Наталля СЦЯЖКО.**

**НА ЗДЫМКУ: выступае "Госціца".**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**

## ПЕРАБУДОВА НЕ ПАРАДЗІЛА ШЭДЭЎРАЎ

1992-гі — год трывогі для савецкіх тоўстых літаратурных часопісаў. Пасля трохгадовага буму, калі дзесяткі выданняў павялічылі свае тыражы ў два, тры, а то і ў 10 разоў, надышоў несумненны спад.

Прычыны таму — і павышэнне цэн на падпіску, і неразваротлівасць пошты — манапольнага распаўсюджвальніка падпісных перыядычных выданняў, і, нарэшце, папросту недахоп паперы і зношанасць друкарскіх магутнасцей.

# ПАДЗЕННЕ ТЫРАЖОЎ ЗАКАНАМЕРНАЕ

Аднак гэтым спіс прычын не вычэрпваецца. Праблема выходзіць за рамкі чыста тэхнічных параметраў. Справа, на мой погляд, у тым, што сёння часопісы сталі менш цікавымі, чым учора. Яны ўжо пазнаёмілі чытача амаль з усёй забароненай раней літаратурай, прадставілі яму амаль усіх майстроў рускага літаратурнага замежжа, выказаліся з усёй магчымай смеласцю па многіх пытаннях унутранай і знешняй палітыкі, эканомікі, рэлігіі, сексу і гэтак далей...

Сёння па гэтых пытаннях значна больш аператыўна і з яшчэ большай смеласцю выказваюцца газеты і штотыднёвікі. Канкурыраваць з імі часопісы не могуць.

Бытуе даволі песімістычная думка, што канец часопіснага буму — сімптом замаруджвання сацыяльнага, палітычнага і інтэлектуальнага працэсу. Але, думаецца, такі погляд усё ж памылковы. Падзенне тыражоў выданняў — з'ява заканамерная, як і папярэдні бум. У СССР рыначныя адносіны ў галіне выдавецкай справы, журналістыкі, культуры ўвогуле складваюцца хутчэй, чым у іншых галінах. Што датычыць непасрэдна літаратурных часопісаў, якія выдаюцца мільённымі тыражамі і без ілюстрацый, то такіх выданняў няма, здаецца, ні ў адной самай развітой краіне. Мусіць, таму, што ў гэтым проста няма неабходнасці. Відаць, такая неабходнасць пачынае знікаць і ў нашай краіне.

Што і гаварыць, літаратурныя часопісы перажываюць сёння цяжкія часы. Гэта тычыцца і традыцыйных выданняў, і новых, незалежных. Сёння літаратурныя праблемы вырашаюцца ўжо не на трыбунах. А на змену ранейшаму дыктату сістэмы прыйшла дыктатура чытача.

Расслаенне і змяненне чытацкіх інтарэсаў — факт відавочны. Ён, вядома ж, зрабіў уплыў і на расслаенне ў самім пісьменніцкім асяроддзі. Нядаўна апублікаваны праект новага статута Саюза пісьменнікаў СССР (СП СССР) сустрэты грамадскасцю неадназначна. Адказам на яго стаў маніфест аб стварэнні Саюза незалежных пісьменнікаў (СНП). У альтэрнатыўную арганізацыю могуць уваходзіць у індывідуальным парадку пісьменнікі ўсіх рэспублік, усіх нацыянальнасцей. У новую арганізацыю ўвойдуць і пісьменнікі замежжа, вымушаныя ў мінулым пакінуць радзіму. Адзінае патрабаванне — быць сапраўды майстрам сваёй справы. І ў СНП ужо перайшлі з СП СССР такія майстры, як Я. Еўтушэнка, Ф. Іскандэр, В. Вайновіч, А. Вазнясенскі, вядомыя літаратары з Эстоніі, Беларусі, Грузіі, Арменіі, Украіны.

Перабудова пакуль не парадзіла шэдэўраў у літаратуры. Але яна пераканала: толькі майстры ствараюць літаратуру, толькі цікавыя творы фарміруюць твар часопіса. Уменне адпавядаць чытацкім запатрабаванням і вызначыць будучыню літаратуры і часопісаў.

**Гаўрыіл ПЕТРАСЯН.**

# ВЯСНА НА ДОКШЫЦКАЙ ЗЯМЛІ

Так называлася выстава беларускага жывапісца Віктара Маркаўца, што адбылася ў Доме мастацтваў у Мінску. Не выпадкова наведванне яе ўключылі ў праграму сусветнага кангрэсу беларусістаў, што адбыўся ў маі гэтага года ў сталіцы Беларусі: творы мастака апавядалі пра чароўны край Полаччыну — прарадзіму ўсёй Беларусі, надзвычай багаты прыкметамі, знакамі даўніны, паганства, культавай атрыбутыкі. Драўляныя і каменныя крыжы, валатоўкі, цэрквы, касцёлы, каплічкі, могільнікі, рэшткі палацаў — на кожным кроку. Вандруючы па гэтаму краю, натыкаешся на сведкаў драматычнай гісторыі беларускага народа, як бы містычных веснуноў і прадказацеляў будучыні праз мінулае. А назовы мясцін — гэта проста музыка архаікі. Паслухайце самі — Вецера, Варганы, Медзазол, Вітунічы, Камайск, Гаргуны і іншыя...

Зачараванасць непаўторнай велічу і прыгажосцю сваёй маленькай радзімы імкнуўся перадаць мастак, рыхтуючы выставу. Адсюль паэтычная накіраванасць вобразаў у яго карцінах, філасофская знакавасць сюжэтаў і ў дадатак... вершы амаль да кожнага з твораў, прапанаваныя наведвальнікам экспазіцыі ў кніжачцы-каталогу, што дапаўняюць утвораныя сродкамі жывапісу сам дух паганства і даўніны.

Докшыцкі край — радзіма Віктара. Тут ён нарадзіўся і вырас, тут жывуць яго тата і мама, да якіх ён часцяком наведваецца, каб надыхацца жыццядайным водарам бацькаўшчыны. Таму не здзіўляе, што лепшыя творы яго мастацтва, якія трапілі ў калекцыі галоўных музеяў Беларусі, прысвечаны сюжэтам з жыцця землякоў жывапісца: "Свята ў Докшыцах", "Дзядзька Саўка", "Дзед Алесь і бабка Марылька" і іншыя. Выстава "Вясна на Докшыцкай зямлі" як бы працяг размовы-апавядання Маркаўца пра ўсё яго творчае жыццё, пра блізкае і дарагое, толькі ўжо не праз асобныя творы, а праз выставу-карціну, цэльны маналог душы мастака, якая ўтварыла архаічны, шчымлівы, але светлы і ўзнёслы эпічны вобраз Докшыцкай зямлі.

**Таццяна ГАРАНСКАЯ.**

ЛЮБІМАЯ СПРАВА

# «І ТЧЭ, ЗАБЫЎШЫСЯ, РУКА...»

Нядаўна адна знаёмая жанчына паскардзілася мне, што яе дачка, якая ўжо доўгі час жыве ў горадзе, вярнула пасаг — саматканыя дываны. Сказала, што не модныя.

— Пры чым тут мода, — абуралася жанчына. — Я ж іх сама ткала, вырабляла...

Не магла яна зразумець, чым не падабаецца сучаснай моладзі тое, што раней лічылася не толькі доказам дастатку ў сям'і, але сведчыла аб працавітасці, уменні гаспадыні. Ды і цяпер, калі пераступаеш парог многіх сялянскіх хат на Слонімшчыне, заўважаеш, як зіхацяць іх пакоі ўзорамі на абрусах, ручніках, дыванах.

Спакон веку наш край славіўся сваімі дыванамі. А падвойныя дываны — унікальная з'ява ў еўрапейскім ткацтве. Яны ствараюць уражанне, быццам дзве тканіны рознага колеру, часцей чырвона-аранжавага, ляжаць адна на другой.

Колькі за сваё жыццё вырабіла такіх дываноў жыхарка вёскі Шышкі Слонімскага раёна Вольга Стрык — падлічыць немагчыма. Дванаццацігадовай дзяўчынкай авалодала рамяством. Сакрэты ткацтва ёй перадала маці.

Жанчына ўжо даўно на пенсіі, але любімую справу не пакідае. З самай раніцы, як управіцца па гаспадарцы, сядае за кросны, і спрытныя рукі з дапамогай чаўнака выводзяць на тканіне адзін узор за другім. То з суседняй вёскі хто папросіць выткаць дыван, то аматар-этнограф з горада зробіць заказ. Не можа Вольга Юльянаўна адмовіць, ды і не хоча. Падабаецца ёй гэтая справа. А нядаўна да яе завіталі супрацоўнікі з Мінскага дома народнай творчасці і папрасілі выткаць дыван. Згадзілася.

— Памятаю, — гаворыць Вольга Юльянаўна, — пан за добрую службу даў маім бацькам лішкі насення льну. Пасеялі мы яго на пяці сотках. З таго часу наша сям'я вырошчвала на сваёй зямлі лён.

Вольга Юльянаўна паказала верацяно — самую простую і найбольш старадаўнюю прыладу працы для прадзення. Па некалькі такіх верацён мела кожная сям'я. Потым ужо паявіліся калаўроты. Звычайна прадзільшчыцы, ці, як іх раней называлі, папрадухі, сыходзіліся ў каго-небудзь у хаце на вячоркі і пралі кудзелю. Ужо ў канцы зімы жанчыны пачыналі снаваць кросны.

Кросны Вольга Юльянаўна набыла дзесяць гадоў назад у суседняй вёсцы. Бо тыя, што дасталіся ёй у спадчыну ад маці, адрабілі сваё. За кроснамі майстрыха праводзіць амаль увесь свой час. А калі стоміцца, то не сядзіць без справы, бярэ ў рукі пруткі і вяжа дзецям і ўнукам шкарпэткі, рукавіцы, хусткі.

У апошні час асноўным матэрыялам для вырабу саматканых рэчаў В. Стрык служыць воўна. Для гэтага трымае авечак.

Пакоі ў хаце Вольгі Юльянаўны нагадваюць выставачныя залы. Усюды: у кожным куточку, на сценах, ложках і падлозе — відаць яе праца. Ручнікі, абрусы, дываны, дарожкі вабяць сваімі геаметрычнымі ўзорамі.

Беларускія народныя ўзоры на тканінах утвараліся стагоддзямі, лепшыя з іх захоўваюцца і цяпер.

Аднак ткацкае рамяство аджывае свой век. У той жа вёсцы Шышкі акрамя В. Стрык тчэ К. Гаркавая (яе завуць па-мясцоваму баба Кланя). Яна, напэўна, адзіная ў раёне, хто вырабляе паясы. Раней амаль ніхто з сялян не выходзіў на вуліцу з непакрытай галавой і без пояса. А тая гаспадыня, у якой было дома шмат паясоў, лічылася самай працавітай. Бо зрабіць пояс — справа марудная, патрабуе вялікага ўмення.

Летась у Бярдовіцкім сельскім клубе праходзіла свята мастацтва і працы, на якім паказвалі свае работы рукадзельніцы трох вёсак. Назват назву выстаўцы далі пявучую, лірычную: "Жаночае натхненне". Тут наведвальнікі ўбачылі вышытыя ручнікі, абрусы, саматканыя дываны, шмат было вязаных рэчаў.

Як сказала ініцыятар і арганізатар гэтага свята загадчыца клуба Галіна Захарчук, вабілі сваёй прыгажосцю выстаўленыя рэчы ўсіх. І кожны з жалем шкадаваў, што гэтае старажытнае рамяство паступова знікае.

...У той час, калі ў многіх хатах гасне святло, вокны Вольгі Стрык свецяцца да позняга вечара. У гэты час майстрыха заканчвае свой чарговы непаўторны па ўзору дыван.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК.**

**НА ЗДЫМКАХ: рукадзельніца В. СТРЫК за кроснамі; К. СУПРУН са сваімі вырабамі.**

**Фота М. СУПРУНА.**

## БЕЛЫ ЛУГ

*Муз. Ларысы МУРАШКІ* *Сл. Алеся ЕМЯЛЬЯНАВА*

Хутка

**Калі я толькі адамкнуў свой круг,**
**Белагаловы хлапчанё-задзіра,**
**Я выбягаў у белачубы луг,**
**Рамонкі рваў і радаваўся шчыра,**
**Калі я толькі адамкнуў свой круг...**

**Прыпеў:**

**Белыя рамонкі, белачубы май.**
**Заіграй, гармонік, заіграй!**
**Белыя рамонкі — шчасце цераз край.**
**Заіграй, гармонік, заіграй!**

**А луг рамонкава мяне вітаў,**
**А белы свет рамонкава смяяўся.**
**І думаў я, што будзе вечна так.**
**Як я тады, наіўны, памыляўся.**
**А думаў я, што будзе вечна так...**

**Прыпеў.**

**Яшчэ на віражах жыццёвы круг,**
**Яшчэ пра восень думаць ранавата.**
**Чаму ж, скажы, чарнееш, белы луг?**
**У чым перад табою вінаваты?**
**Яшчэ на віражах жыццёвы круг...**

**Прыпеў.**

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

**ПЕТУШОК (Шпаўда) Людміла Уладзіміраўна** шукае сваю сястру **ШПАЎДА Гандзю Уладзіміраўну**, 1920 года нараджэння, ураджэнку вёскі Астрова Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці, якую ў 1942 ці 1943 годзе ў час нямецкай акупацыі вывезлі ў Германію з вёскі Галынка той жа вобласці і раёна.

Просім усіх, каму што-небудзь вядома аб далейшым лёсе маёй сястры, пісаць у рэдакцыю газеты альбо на адрас:
**220046, г. Мінск,**
**І-шы Пераходны завулак,**
**дом №14.**
**ПЕТУШОК Людміле Уладзіміраўне.**

## СПОРТ

ФУТБОЛ. У рамках адборачнага турніру алімпійцы СССР перамаглі нарвежскую зборную з лікам 1:0. Пасля гулялі першыя нацыянальныя каманды, але ўжо ў адборачным матчы першынства Еўропы. І тут поспеху дамагліся савецкія футбалісты, за якіх выступаў і мінчанін Сяргей Алейнікаў, таксама з лікам 1:0.

ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА. На чэмпіянаце свету ў Афінах беларускі спартсмен Уладзімір Сасімовіч заваяваў "бронзу" і ўстанавіў усесаюзны рэкорд у кіданні кап'я — 87 метраў 8 сантыметраў.

ШАХМАТЫ. Тры першыя месцы занялі прадстаўнікі СССР на юнацкім чэмпіянаце свету ў Бразіліі: І. У. Крамнік (Туапсе), 2. К. Сакаеў (Ленінград), 3. А. Аляксандраў (Бабруйск).

ВЕСЛАВАННЕ АКАДЭМІЧНАЕ. З дзесяці пасланцоў рэспублікі на чэмпіянаце свету ў Вене сем чалавек заваявалі медалі. "Золата" ў Сяргея Канякіна.

СКАЧКІ Ў ВАДУ. Мінчанін Андрэй Семянюк стаў чэмпіёнам Еўропы ў скачках з аднаметровага трампліна. "Золата" таксама ў плыўчыхі з Магілёва Алены Рудкоўскай.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Газета аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку"
Індэкс 63854. Заказ № 1350.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12